Газета заснавана ў 1931 годзе. Адноўлена ў 1999 годзе.

# Голас Пружаны

№ 15 (15)
Пятніца,
22 - 28
снежня
2000 года

Штотыднёвая незалежная грамадска-палітычная газета

Кошт свабодны

2 старонка НА ЧТО ТРАТЯТСЯ НАШИ ДЕНЬГИ?

3 старонка В ЛЕСУ РОДИЛАСЬ ЁЛОЧКА...

4 старонка КРЫША ПОЕХАЛА!



## Дарагія Пружанцы і ўсе чытачы газеты!

*Ужо нешмат засталося да заканчэння года, калі мы ўспамінаем і перажываем 2000 годдзе прышэсця на свет Нашага Збаўцы Езуса Хрыста. З гэтай нагоды жадаю звярнуцца да ўсіх людзей добрай волі, жывучых на Пружанскай зямлі.*

*З вялікім болем і смуткам перажываем праблемы і падзелы, што адбываюцца паміж народамі, часта прыводзячыя да войнаў і знішчэнняў, паміж сем'ямі, правакуючыя сваркі і нязгоду і варожасць, паміж членамі тых самых сем'яў, выклікаючыя злосць і непаразуменне.*

Вызваленне ад усяго гэтага прыносіць толькі Той, хто ёсць Мір і Любоў, хто 2000 год таму нарадзіўся ў Віфлееме, ў бедным хляве для жывёлы. Цярпеў прыніжэнні, каб падняць нас і вырваць з няволі граху і нячыстага.

З вераю набліжаемся да Жолуба, каб яшчэ разназіраць непазнаную Таямніцу Божай Любові, якая набыла выгляд чалавека, каб выратаваць род чалавечы.

Дазволім, каб Увасобленае Слова Божае ўвайшло ў нашыя сэрцы, нашыя сем'і, у нашае грамадства. Бо толькі тым, "якія Яго прынялі дадзена моц, каб сталі сынамі божымі"(І 1,12).

Дазволім, каб народжаны ў Віфлееме Езус стаў для нас Адзіным Праваднікам на дарогах новай эпохі Трэцяга Тысячагоддзя.

Ён ёсць увасабленнем спакою, любові і праўды - тых вартасцей, без якіх чалавек немажа, якіх драматычна шукае.

Будзем удзячнымі, як тыя пастушкі, што прыйшлі у Віфлеем "узлюбіць і ўслаўляць Бога за ўсё, што бачылі і чулі (Л.2,20). Станем сведкамі Добрай Весткі, у свеце змрочных навінаў і сенсацый якія мы часта можам пачуць.

Няхай не будзе ў нас злосці, скваплівасці, зайздрасці, але няхай кожнага перапаўняе клопат аб іншым, найбольш патрабуючым, хворым і бедным, бо гэта ёсць паказчык таго, што мы і сапраўды ёсць дзеці нашага Бога, а паміж сабою Братамі і Сёстрамі, якія павінны сабе служыць з любоўю.

Уласна кажучы, усё добра, што перажываем і можам ўзаемна сведчыць сабе, за клопат выражаны ў малітве і дапамогу адзін аднаму, будзем удзячны падчас святой Эўхарыстыі.

Адначасова просім Бога, каб маглі слухаць кожны дзень Яго Слова і жывіцца Яго Целам, былі здольныя зноў асіліць труд павелічэння ў нас і вакол нас Дабрыні, Святла і Любові.

Як супольнасць людзей веры і добрай волі, жадаючых несці свету Радасную Навіну, разам з Анёламі спяваем Дзіцятку ўсім сэрцам: "Хвала на вышынях Богу, на зямлі Мір людзям добрай волі"(Л.2,13).

Парафіянам, усім жыхарам Пружаншчыны, чытачам газеты жадаю Міру, радасці, узаемнай дабрыні і павагі, спакойных і радасных Святаў Божага Нараджэння, а таксама Благаслаўлення Дзіцяткі Езуса, у Новым 2001 Годзе ад усяго сэрца жадае Пробашч Пружан, Шарашова, Перадзельска і Вялікага Сяла.

***Кс. Эдвард Лоек СМ***

## Сардэчна запрашаем на супольную малітву пры Віфліемскіх Ясельках у святочныя дні:

**24.12.2000 г.**
**IV Тыдзень Посту (Вігілія):**
10⁰⁰ - *Святая Імша ў Шарашове і Вялікім Сяле;*
12⁰⁰ - *Святая Імша ў Пружанах і Перадзельску;*

**24/25 XII 2000 г.**
**Ноч Божага Нараджэння:**
22⁰⁰ - Святая Імша "Пасырская" ў Пружанах і Вялікім Сяле;
24⁰⁰ - Святая Імша "Пастырская" ў Пружанах і Шарашове;

**25.12.2000**
**Урачыстасць Божага Нараджэння:**
10⁰⁰ - Святая Імша ў Шарашове і Вялікім Сяле;
12⁰⁰ - Святая Імша ў Пружанах і Перадзельску;
15⁰⁰ - Святая Імша ў Стараволі і Шчэрбах.



## 2 студзеня 2001 года- не працуем

Урад краіны прыняў пастанову аб пераносе працоўных дзён у 2001 годзе. Згодна з ёй працоўны дзень з аўторка 2 студзеня пераносіцца на суботу 20 студзеня. Такім чынам, navагоднія святы ў краіне будуць доўжыцца чатыры дні: 30, 31 снежня 2000 года і 1, 2 студзеня 2001 года.

Працоўны дзень з панядзелка 23 красавіка пераносіцца на суботу 21 красавіка. Таму напярэдадні Радаўніцы - 24 красавіка - Грамадзяне краіны будуць мець магчымасць адпачыць яшчэ два дні: 22 і 23 красавіка.

Затым працоўны дзень з панядзелка 30 красавіка пераносіцца на суботу 28 красавіка і, адпрацаваўшы чатыры дні, жыхары Беларусі будуць адпачываць тры: 29, 30 красавіка і 1 мая ў Дзень працы.

Працоўны дзень з панядзелка 2 чэрвеня пераносіцца на суботу 7 ліпеня. Такім чынам, перад дзяржаўным святам 3 ліпеня - Днём Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Днём Рэспублікі) - у насельніцтва будуць яшчэ тры выхадныя дні: 30 чэрвеня, 1 і 2 ліпеня.

Працоўны дзень з панядзелка 24 снежня пераносіцца на суботу 22 снежня. Адпрацаваўшы шэсць дзён, жыхары Беларусі перад святам каталіцкіх Каляд - 25 снежня - будуць мець магчымасць адпачыць яшчэ два дні: 23 і 24 снежня.

Працоўны тыдзень пасля каталіцкіх Каляд будзе складацца з чатырох дзён і стане гэтак жа кароткім, як і апошні тыдзень красавіка 2001 года. Пасля пераносу ў адпаведнасці з пастановай урада працоўнага дня з панядзелка 31 снежня на суботу 29 снежня з'яўляюцца тры выхадныя: навагоднія святы 30, 31 снежня і 1 студзеня 2002 года.

**Алесь САКАЛОЎ, БелаПАН.**

## Рэгіёны за Домаша



Кіраўнікі грамадскіх, палітычных і прафсаюзных арганізацый усіх шасці абласцей Беларусі, якія ўваходзяць у Каардынацыйную Раду "Рэгіянальная Беларусь", заявілі 16 снежня 2000 года пра тое, што Сямён Домаш адпавядае ўсім патрабаванням, што прад'яўляюцца да адзінага кандыдата ад аб'яднанай беларускай апазіцыі на маючых адбыцца прэзыдэнцкіх выбарах. Рашэнне аб падтрымцы кандыдатуры Домаша было прынятае ў канцы лістапада на паседжанні "Рэгіянальнай Беларусі" ў Брэсце. Лідары рэгіёнаў прапануюць грамадскасці Беларусі падтрымаць іх рашэнне.

Сямён Домаш нарадзіўся ў 1950 г. у Ляхавіцкім раёне Брэсцкай вобласці. Мае тэхнічную і вышэйшую эканамічную адукацыю. Шмат гадоў працаваў у сыстэме аўтатранспарту, быў дырэктарам Гарадзенскага аўтакамбіната №1. 1987-1990 - старшыня Лідскага гарвыканкаму. 1990-1993 - старшыня Гарадзенскага гарвыканкаму.

У 1993-1994 быў губернатарам Гарадзенскай вобласці. З 1994 узначаліў Гарадзенскі абласны Савет дэпутатаў і аблвыканкам. Дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га склікання. Член Прэзыдыума Вярхоўнага Савета з мая 1995 года. Займаўся пытаннямі мясцовых саветаў дэпутатаў, кантактамі з беларускай дыяспарай, пытаннямі матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння дзейнасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Падчас лістападаўскага рэферэндума 1996 года выступіў супраць А.Лукашэнкі, падпісаўшыся за імпічмент. Адзіны рэгіянальны лідар, які адкрыта перайшоў у апазіцыю да прэзыдэнта. З 1999 узначальвае аб'яднанне "Рэгіянальная Беларусь" - структуру, якая аб'ядноўвае дэмакратычныя арганізацыі і аддзяленні партыяў і рухаў у рэгіёнах краіны. Кіраўнік аб'яднання "Гарадзенская ініцыятыва". У Каардынацыйнай радзе дэмакратычных сілаў прадстаўляе Гарадзенскую вобласць. Кандыдат у майстры спорту па боксу. Жанаты, мае двух сыноў.

Праваслаўны. Беспартыйны. За прыклады ў палітыцы ўважае Вітаўта Вялікага, Вацлава Гавэла і Рональда Рэйгана.



## НАВІНЫ

***Приезжал министр***

18 декабря Пружанский РОВД посетил Министр внутренних дел генерал-майор милиции Наумов В.В.. Он ознакомился с демографической ситуацией в районе, с состоянием преступности, а также с ходом строительства пристройки здания МВД.

***ПІНСКІ ДЫЯГНАСТЫЧНЫ ЦЭНТР АТРЫМАЎ ЯПОНСКАЕ АБСТАЛЯВАННЕ***

Пінскі дзіцячы рэабілітацыйна-дыягнастычны цэнтр атрымаў з Японіі партыю партатыўнага абсталявання. Абсталяванне прызначана для выязных медыцынскіх агляда́ў. У аўтобусе змяшчаюцца апарат ультрагукавога даследавання шчытападобнай залозы, прыборы для правядзення аналізаў крыві, даследавання унутраных органаў. Адразу пасля завяршэння мантажу новае абсталяванне паедзе на абследаванне ў Лунінецкі раён. Дагэтуль дзеці з Лунінецкага раёна не праходзілі медыцынскага агляду, бо зза нястачы грошай немагчыма было арганізаваць іх дастаўку ў Пінск. Пацыенты, у якіх будзе знойдзена паталогія, будуць накіраваны на дадатковае абследаванне ў Пінск.

***ПОМНІК СТАЛІНУ БУДЗЕ СТАЯЦЬ У СВІСЛАЧЫ***

У Свіслачы, што ў Гарадзенскай вобласці, гарадскія ўлады вырашылі паставіць бюст Сталіну. З такой прапановай звярнуліся мясцовая ветэранская арганізацыя і партыя камуністаў. Сталіна знайшлі ў хляве аднаго калгаса, які насіў у далёкія гады яго імя. Бюст было вырашана далучыць да помнікаў Леніну, савецкім салдатам і кіраўнікам паўстання 1863 году - Рамуальду Траўгуту і Кастусю Каліноўскаму.

***З'ЯВІЛАСЯ "ШКОЛЬНАЯ ГАЗЭТА" У БЯРОЗЕ***

У Бярозе выйшаў першы нумар "Школьнай газеты". Выдае газэту творчая група "БАС", якая складаецца з настаўнікаў і дзяцей. Мяркуецца, што газета будзе выходзіць пэрыядычна.

***НЕДАБРАЛІ Ў ВАЗЕ***

Паводле звестак Пружанскага райваенкамата, падлягаюць прызыву ў войска усяго 173 хлопцы. Аднак пайдуць на вайсковую службу 107 чалавек. Астатнія атрымалі адтэрміноўку па розным прычынам, у тым ліку- 48 па стану здароўя. А 13 хлопцаў недабралі ў вазе (гіпатрафія). Прычына - недахоп харчавання.

**Марина Шевченко**

## ДЛЯ ВАС, РОДИТЕЛИ!

# ОДИН ДОМА!

Думаю, все знают фильм с таким названием о мальчике, для которого наступил « праздник свободы и независимости», когда он был забыт родителями дома. А в жизни есть дети, которых не радует досуг в одиночестве, а наоборот, очень пугает. Почему? Причины могут быть самые разные.

Иногда желание не отпускать от себя взрослого объясняется не робостью, а деспотизмом. Боязливость здесь - лишь удобная маскировка. Иногда причиной не отпускать папу или маму может быть ревность и другие чувства. Но всё же самой распространённой - является страх.

Страх одиночества, как правило, присущ впечатлительным, болезненным, застенчивым детям с высоким интеллектом и развитым воображением. Но при этом они часто томятся скукой, не знают, чем себя занять. Их богатое воображение не находит выхода и усиленно «штампует» странные образы. Даже в знакомой комнате ребёнку могут мерещиться всякие ужасы: то кто-то прячется в шкафу, то под кроватью притаилась ведьма, то в окно заглядывают пришельцы...

Главная задача родителей - направить богатое воображение ребёнка в менее болезненное русло, научить его самостоятельной работе и полезным ролевым играм.

Попробуйте поиграть с ним...в одиночество. Те ситуации, которых так боится ребёнок, можно «прожить» и преодолеть именно в игре.

Возьмите в руки плюшевого зайчика или мишку и начните маленькое представление: «Приключение Потеряшки». Сюжет очень простой - жил-был щенок, пошёл как-то на прогулку и... потерялся. Если ребёнок охотно участвует в игре и готов продлить её, придумывайте вместе приключения Потеряшки. Если же сюжет травмирует малыша, поскорее предложите счастливую развязку, но через несколько дней вернитесь к той же игре и проследите за поведением ребёнка. Показывайте именно ПРИключения, а не ЗЛОключения Потеряшки, подчёркивая доброту персонажей. Если ребёнок скажет, что щенку было у прежних хозяев неуютно, пусть его найдут другие люди, например, он сам, момент обретения дома должен быть очень радостным. Не забудьте подчеркнуть, что приключения свои щенок потом вспоминал с удовольствием.

О том, как помочь своему ребёнку избавиться от страхов при помощи игр, мы поговорим в следующем номере газеты.



**Курсы валют у банках г.Пружаны:**

| | купля | продаж |
|---|---|---|
| **БелБізнесБанк** | | |
| $ ЗША | 1207 | 1216 |
| DM | 535 | 550 |
| RUR | 42 | 43 |
| **Аграпрамбанк** | | |
| $ ЗША | 1200 | 1216 |
| DM | 545 | 555 |
| RUR | 41 | 43 |
| **Беларусбанк** | | |
| $ ЗША | 1206 | 1216 |
| DM | 525 | 550 |
| RUR | 41 | 43 |

**Кошт паліва на гарадскіх АЗС:**



**АЗС "Пружаны"**

| | |
|---|---|
| Аі-95 | 668 |
| Аі-92 | 584 |
| Аі-76 | 470 |
| ДП | 438 (зимн.) |

**АЗС «Салют»**

| | |
|---|---|
| Аі-95 | няма |
| Аи-92 | 560 |
| Аи-76 | 450 |
| ДП | 417 |



# НА ЧТО ТРАТЯТСЯ НАШИ ДЕНЬГИ?



Фото: IREX/ProMedia

***Руководители страны убеждают, что они постоянно заботятся об улучшении жизни граждан, что для них ничего нет важнее, чем это. Тут же ссылаются на увеличение зарплаты, пенсий... Это на словах. А как на самом деле? Давайте переключим свое внимание с их пылких речей на обычную житейскую арифметику, а точнее, на государственный бюджет. Давайте посмотрим, как же власть распоряжается государственными деньгами, на что их тратит: на улучшение нашей жизни или на что-то другое?***

Итак, республиканский бюджет на 2001 год по расходам обозначен суммой 3.471.000.788 тысяч рублей. Прежде чем знакомиться со статьями расходов, давайте задумаемся, а откуда государство имеет столько денег? Конечно же, это наши с вами деньги. Их взяло государство в виде налогов и отчислений из доходов, трудовых коллективов, в которых мы работаем. Поэтому у нас и малые зарплаты, что власти почти все выгребают в бюджет. Так, в названном документе сказано, что текущие налоговые доходы составят 2.468.616.860 тысяч рублей. Из них налоги на доходы и прибыль - 602.846.113 тысяч рублей, налоги, с фонда заработной платы-125.537.364 тысяч рублей.

А теперь посмотрим, на что власти собираются потратить эти огромные деньги.

На национальную оборону выделено 152.213.855 тысяч рублей, на правоохранительную деятельность и обеспечение безопасности - 280.590.758 тысяч рублей, на судебную власть - 13.734.417 тысяч рублей. Сложим и получим 446.539.030 тысяч рублей. Вот такая сумма вы-деляется на содержание силовых структур.

На промышленность, энергетику и строительный комплекс предусмотрено 35.416.600 тысяч рублей, на транспорт, дорожное хозяйство и связь - 4.543.755 тысяч. Давайте задумаемся над двумя цифрами:

***на силовые ведомства выделено 446.539.030 тысяч рублей;***

***на промышленность, энергетику и строительный комплекс - 35.416.600 тысяч рублей.***

То есть на развитие промышленности, энергетики и строительного комплекса, выделяется денег в 12 раз меньше, чем на силовые ведомства. Правильно ли это? Разве жизнь граждан станет лучше оттого, что государство закупит еще массу танков и резиновых дубинок? Думается, нам жилось бы лучше, если бы больше строилось квартир, модернизировалось бы наше производство. Но власти, видимо, придерживаются иного мнения. Для них, стало быть, важнее закупить побольше резиновых дубинок и металлических щитков для разгона демонстраций.

Нам часто говорят, что мы не оплачиваем всю стоимость коммунальных услуг, что государство вынуждено за нас доплачивать и за отопление, и за подогрев воды и т.д. И под шумок этих слов постоянно взвинчиваются цены за коммунальные услуги. А сколько оно само выделяет на жилищно-коммунальное хозяйство? Да просто смешную долю, всего 900.988 тысяч рублей. Давайте сравним эти две цифры и задумаемся:

***на силовые структуры выделено 446.539.030 тысяч рублей,***

***на жилищно-коммунальное хозяйство - 900.988 тысяч рублей.***

Да перебросили б немножко денег от силовиков на коммуналку и с пенсионеров можно было бы вообще не брать плату за ряд коммунальных услуг, ан нет, дерут с нищих пожилых людей последние копейки. При этом еще разыгрывают спектакль о заботе - принимают решения о мелких льготах на оплату. И многие люди клюют на эту дешевую наживку. Листаем приложение к Закону о бюджете "Ведомственная структура расходов республиканского бюджета на 2001 год". Правда, нам удалось раздобыть лишь проект документа, который выносился в октябре на рассмотрение во втором чтении в так называемую Палату представителей. Но информированные источники утверждают, что существенных изменений он уже не претерпел. Здесь нельзя не обратить внимания на строку - "Управление делами президента Республики Беларусь - 42.489.604". Это столько тысяч рублей выделено на названное президентское подразделение. Замечу, что на культуру, Академию наук денег отпущено значительно меньше. Впрочем, - задумайтесь сами над цифрами.

Выделено:

***Управлениию делами президента - 42.489.604 тысяч рублей;***

***Национальной академии наук - 3.687.760 тысяч рублей;***

***культуре, искусству, кинематографии - 20.363.459 тысяч рублей;***

***промышленности, энергетике, строительному комплексу - 35.416.600 тысяч рублей.***

Просто не верится, не описка ли какая в документе. Ведь управление делами президента получает намного больше денег, чем вся промыш-ленность, энергетика и строительный комплекс.

А есть еще служба безопасности президента. Ей дают 4.369.759 тысяч рублей. Это больше, чем Национальной академии наук. Выходит, труд академиков оплачивается ниже, чем труд президентских охранников. А ведь всем известно, что прогресс страны в большей степени зависит именно, от достижений науки и совсем не зависит от тренировок охранников.

Сравним:

***служба безопасности президента - 4.369.759 тысяч рублей;***

***малый бизнес и предпринимательство - 972.500 тысяч рублей***

Не дороговато ли обходится одна охрана президента? Уже набили оскомину утверждения властей о том, что союз Беларуси с Россией поможет улучшить благосостояние белорусов. Сладкими речами на эту тему кормят более пяти лет. А где улучшение? Его и не видно. Зато содержание чиновников, которые постоянно по телевизору ратуют за союз, обходится народу недешево. На содержание исполнительного комитета союза Беларуси и России, отчисления в бюджет этого союза отпущено 38.294.000 тысячи рублей. Не забыли, сколько выделено на жилищно-коммунальное хозяйство? Напомниаю, 900.988 тысяч рублей. Сравним эти цифры:

Выделено:

***В бюджет союза с Россией - 38.294.000***

***в жилищно-коммунальное хозяйство - 900.988 тысяч рублей;***

***Национальной академии-- 3.687.760 тысяч рублей.***

Так что, чиновники будут еще; громче кричать о необходимости союза с Россией. А почему бы и не кричать, если на этот крик выделяются астрономические суммы, или где-то в 40 раз больше; чем на все жилищно-коммунальное хозяйство страны. Откуда же при такой ситуации батареи в домах будут теплыми?! Понятно, что и. цены на коммунальные услуги будут расти и расти, ибо деньги, которые могли бы быть направлены в коммуналку, пошли в кормушку для чиновников, ратующих за союз с Россией и за СНГ...

Много интересного содержится в Законе о бюджете и приложениях к нему. Думается, Профсоюзам не мешало бы провести рабочие собрания, на которых обстоятельно рассмотреть бюджет на новый год. Тогда многим стало бы ясно, почему у нас такие малые зарплаты, пенсии, почему с каждым днем живется все хуже.

***Евгений ТАВГЕНЬ***

## КРИМИНАЛЬНАЯ ХРОНИКА

В ночь с 13 на 14 декабря из клуба ПМК-53 г. Пружаны был похищен усилитель «Гармония-70». Лица, которым что-либо известно о даннqм усилителе и о данной краже, звоните по телефонам: -02, 2-03-46.

* * *

17 декабря, в ночь, в д. Козлы из гаража, расположенного во дворе дома гражданина М., был похищен велосипед.

* * *

В дежурную часть Ружанского поселкового отделения милиции 19 декабря поступило сообщение от заведующей магазином д. Мозоли, о том, что в магазин совершено проникновение. По прибытии на место происшествия оперативная группа установила - преступник проломил потолок магазина, проник в него и похитил товар на сумму около 80 тысяч рублей.

*По данным фактам проводится проверка.*

# Остерегайтесь: поддельные денежные купюры!

**Захарченко С. А., оперуполномоченный ОЭП Пружанского РОВД.**

В последнее время в республике отмечается рост фактов сбыта поддельных денежных купюр. Анализ оперативной обстановки по линии борьбы с фальшивомонетничеством свидетельствует об активизации деятельности фальшивомонетчиков.

За 11 месяцев текущего года, на территории Брестской области зарегистрировано 470 фактов сбыта фальшивок, из них 121 сбыт рублей Национального банка Республики Беларусь. Наиболее распространённый характер приобретает сбыт поддельных купюр достоинством 1000 рублей и 5000 рублей. Данные купюры, в основной массе, изготовлены на цветной множительной технике. Водяные знаки и защитная металлизированная нить отсутствуют. Рисунок по цвету менее насыщен по сравнению с подлинной. Бумага, на которой изготовлена купюра, мелковолнистая, рыхлая. Микрошрифт и мелкие элементы рисунка не читаются.

***Номера наиболее часто встречающихся поддельных купюр:***

- достоинством 1000 рублей - АЕ 1441013; АВ 0914851; ГЕ 6807296;
- достоинством 5000 рублей - АК 9301305;АК 9301303;АК 9301317.

Как вытекает из материалов проверки, основная часть фальшивых денежных билетов выявляется в инкассаторских сумках в банках при поступлении выручки от субъектов хозяйствования. В значительной мере этому способствует халатность со стороны лиц, осуществляющих приём наличных денег от населения и не владеющих отличительными признаками подделок и способах их обнаружения.

На территории нашего района за указанный период было зарегистрировано 5 фактов сбыта поддельных денежных купюр, по которым возбуждены уголовные дела по ст. 84 УК РБ. Четыре из них раскрыты, и лица, совершившие данные преступления, осуждены.

В сентябре месяце текущего года жители Украины, в г.п. Шерешево пытались сбыть поддельную денежную купюру, достоинством 100 долларов США, но были задержаны работниками милиции с поличным.

Жители г. п. Ружаны Т. и Б. хранили с целью дальнейшего сбыта фальшивые 100 долларовые купюры и сбывали в г. Бресте. В ходе проведения спецмероприятий были задержаны. Поддельные купюры изъяты.

Хочу предостеречь граждан: чтобы не стать жертвой фальшивомонетчиков, надёжнее всего Вы застрахуете себя, отказавшись от приобретения любых видов валют с рук, минуя официальные обменные пункты или банки.

# НОВЫ ГОД
## у народнай традыцыі

Алена Адамчук



Новы год - адзін з найбольш папулярных, агульнанародных свят. Ён урачыста адзначаецца ва ўсіх краінах, на ўсіх кантынентах. З ім якраз былі звязаны ўстойлівыя звычаі і старажытныя табу, уласцівыя многім народам.Так, забаранялася ў гэты час сварыцца, гаварыць пра смерць, дапускаць ганебныя учынкі ў адносінах да сябе падобнага; людзі забывалі міжусобныя спрэчкі, ворагі прыпынялі ваенныя дзеянні. Паводле народных павер'яў, вайна, распачатая пад Новы год, заканчвалася няўдала для яе ініцыятараў.

Новы год увасабляў ідэю абнаўлення свету. Ён адкрываў перад кожным новую старонку ў жыцці, кожны звязваў з ім новыя надзеі, здзяйсненні лепшых мар і памкненняў. Тыя, хто знаходзіўся ў гэты час у адыходных промыслах, імкнуліся вярнуцца дахаты, каб сустрэць Новы год разам з сям'ёй. Традыцыя сустракаць Новы год у сям'і сягае ў глыбокую мінуўшчыну і звязана з ушанаваннем хатняга (сямейнага) ачага і культам продкаў.

У народным календары святкаванне Новага года часцей за ўсё прыходзілася на першы маладзіковы тыдзень пасля вясновага раўнадзенства (19-20 сакавіка) і арыентавалася на Благавешчанне (Дабравешчанне) ці Вялікдзень. Прыкладна такая ж традыцыя існавала ў сярэднявеччы ў рускіх, палякаў, французаў, англічан і іншых народаў. Толькі ў 1492 г. праваслаўная царква ў Расіі перанесла дату святкавання грамадзянскага Новага года з сакавіка на 1 верасня, і гэтая дата пратрывала да 1700 года. Мы не гаворым пра народы Усходу; дзе традыцыя святкавання Новага года (Наўруз) у веснавы перыяд жывая і сёння.

Разам з тым у народным календары існаваў і яшчэ адзін ідэйна значымы перыяд, калі пасля самых кароткіх дзён сонейка паварочвала на вясну і, паводле язычніцкай традыцыі, пачыналася новае адраджэнне Бога Сонца. Гэты перыяд атрымаў назву Каляд; ён пачынаўся святам Ражством і заканчваўся Хрышчэннем (Вадохрышча). Уласна Новы год прыходзіў на дзень Васіля Вялікага (Васілле). Навагоднія віншаванні і падарункі, абход падвор'яў з зоркай і песнямі, так званае ваджэнне казы ці бусла, пераўвасабленне ў цыганоў і казачных персанажаў, танцы і інтэрмедыі, гульні і забавы, варажба і гаданні, магічныя дзеянні, заклінанні і абярэгі, прыкметы і павер'і - усё гэта злівалася ў адзіны абрадавы комплекс, складаючы неад'емныя элементы традыцыйнага народнага свята.

Кожнаму Каляднаму святу адпавядала свая абрадавая ежа.Найбольш шчодрай яна была на Васілле. Каша з салам ці мёдам (куцця), засмажаны парсючок, каўбасы, верашчака, святочныя бліны, медавуха былі абавязковай абрадавай ежай. Кожны імкнуўся сустрэць Новы год у поўным дастатку і добрым настроі, каб, паводле старадаўніх павер'яў, перанесці гэты дастатак і настрой у новы год. Напярэдадні ніхто не рабіў пазыкі, наадварот, кожны імкнуўся разлічыцца з даўгамі ці выкупіць свае закладзеныя рэчы.

Сімвалічны сэнс Новага года вызначаў шэраг прыкмет, павер'яў, звычаяў - апрананне ў вывернуты кажух (ён, як і маскі, нібы адпужваў нячыстую сілу), купанне, пераапрананне ў чыстую бялізну і новае святочнае ўбранне. За тыдзень да свята жыхары наводзілі ў хатах узорную чысціню і парадак, мылі падлогу і вокны, выкідвалі ці палілі старыя рэчы, нібы адцураючыся ад "худога" мінулага. Усё гэта сімвалізавала і сцвярджала ідэю абнаўлення свету і надзею на лепшую будучыню.




# ВАРАЖБА

***Як хутка ляціць час! Вось і цяпер так мала засталося да Калядаў. Я люблю гэтае свята не толькі за падарункі, але і за яго таямнічасць, якая так вядома дзявочаму сэрцу.***

***Дык калі ж як не цяпер займацца варажбою. А я паспрабую дапамагчы вам у гэтым. Пачнем з варажбы, якой займаліся нашы бабулі.***

**СПОСАБ ПЕРШЫ.** Калядную ноч выйдзі на вуліцу і ў першага сустрэчнага запытайся імя. Для асабліва дасведчаных тлумачу: дзяўчыны пытаюць імя ў мужчын, хлопцы - у жанчын. Ведаю, што зараз многія з вас дастаткова сарамлівыя, але, я ўпэўнена, пад Новы год сарамлівасць вас пакіне.

**СПОСАБ ДРУГІ.** Для тых, хто: занадта сарамлівы, гультай або хто ўжо (па нейкім прычынам) не зможа выйсці на вуліцу. Напярэдадні свята, на кавалках паперы напішы імёны (каму што пісаць гл. спосаб першы). Паперкі пакладзі пад падушку, а раніцай (калі будуць сілы пасля святкавання) дастань адну паперку. Імя напісанае на ёй- імя твайго будучага хлопца (або дзяўчыны, хто каго цікавіць).

**СПОСАБ ТРЭЦІ.** Завецца ён - "на ўсялякі выпадак". Для тых, хто раптам апынецца ля плота, а яшчэ лепш - ля штыкетніку. Абхапі штыкетнік, колькі зможаш, рукамі і лічы колькасць штыкет. Калі лік цотны (дзеліцца на 2 без астачы) - быць табе ў гэтым годзе ў пары. Ну а калі лік няцотны, не хвалюйся, а ўспомні свае адзнакі па матэматыцы.

**СПОСАБ ЧАЦВЁРТЫ.** Для тых, хто пад дамашнім арыштам. Для варажбы, на святочным стале (акрамя ежы і г.д.) павінна быць свяча. Яшчэ падрыхтуй маленькая паперку і аловак. Калі часы пачнуць біць "12", пішы на паперцы сваё жаданне, затым спалі яе з дапамогай свечкі, попел высып у шампанскае (зразумела не ў бутэльку, а ў свой бакал) і выпі. Калі з рэакцыяй у цябе ўсё ў норме, і ты паспееш зрабіць усё гэта пакуль часы б'юць "12", то тваё жаданне павінна збыцца на працягу года. А пакуль ёсць час- рэпетыруй!

**Жадаю вам добра правесці святы і ўвесь будучы год.**

*Варажбу прапанавала*
*вучаніца 11 кл. Пашкевіч Кацярына.*



# В ЛЕСУ РОДИЛАСЬ ЁЛОЧКА...



Валюкевич Евгений
e_valukevich@yahoo.com

На носу Новый год. Город до сих пор не украшен в разноцветные гирлянды и лесными красавицами-елочками. В эти дни только обычные граждане думают о том, где и как приобрести красивые, яркие и красочные игрушки, где купить или не купить символ Нового года.

Многих в эти предпраздничные дни волнует вопрос приобретения зелёных Новогодних ёлок. Как правило, законопослушные и любящие природу люди покупают данный продукт. В Пружанах этим занимается «Пружанский лесхоз». Как нам сообщили в лесном хозяйстве, к этому году будет срублено «под корешок» 3-4 тысячи елки разного размера. Из них 1-2 тысячи поедут на реализацию в Брест. Остальные будут реализованы в Пружанском и соседних районах. С 25 декабря можно будет купить елочку в Пружанском лесхозе за небольшую сумму (от 600 рублей).

Однако в нашем далеко не здоровом обществе есть такие «любители» живой природы, которые с помощью топора и пилы занимаются зимним видом спорта, таким как несанкционированная вырубка леса. С такими людьми борется и милиция, и сотрудники лесничества. Но пока мы сами не начнём презирать этих людей, я думаю, они не перестанут калечить природу.

Для людей, не переносящих осыпавшуюся хвою, и запах живой ёлочки тоже есть «рецепт».

На рынке можно приобрести искусственную, любых размеров елку. Цены большие, зато лет 7 елку даже можно не убирать из комнаты (пока игрушки не опадут!).



Ф.РД-1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63642** (індэкс выдання)

**Голас Пружаны**

Колькасць камплектаў

на 2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Каму ______ (прозвішча і ініцыялы)

Куды ______ (адрас)

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА** на газету **63642** (індэкс выдання)

**Голас Пружаны**

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

на 2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Каму ______ (прозвішча і ініцыялы)

Куды ______ (адрас)

КОНКУРС ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

# БЛІЗКАЯ ГІСТОРЫЯ

# МОЙ РАДАВОД: лёс сям'і у XX стагоддзі

Грамадскае аб'яднанне «Дыярыуш» пры ўдзеле Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Таварыства беларускай школы і Згуртавання Беларускай Шляхты абвяшчае конкурс «Мой радавод: Лёс сям'і ў XX стагоддзі».

Лёс кожнай сям'і цесна знітаваны з XX стагоддзем, якое робіцца для нас блізкай гісторыяй. Калі вас цікавіць мінулае, лёс блізкіх вам людзей на пуцявінах веку, калі вам не шкада часу, каб працаваць у архівах і бібліятэках, калі вас захапляюць адкрыцці, спасцiжэнне нязведанага, калі вы не баіцеся рабіць арыгінальныя высновы і фармуляваць уласныя ідэі, тады мы запрашаем вас прыняць удзел у нашым даследчым конкурсе.

У конкурсе могуць браць удзел вучні сярэдніх навучальных устаноў (пачынаючы з 7-га класа): ліцэяў, гімназій, а таксама навучэнцы каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў.

Форма конкурснай працы адвольная: сачыненне, эсэ, інтэрв'ю, калаж з фотаздымкаў, фільм і інш. Калі праца нятэкставая (аўдыё-, відэа-, фотаздымкі) - да яе павінна быць далучана пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс даследавання альбо заключае каментар да крыніцаў.

Працу пажадана пісаць на беларускай мове, яе можна выконваць індывідуальна альбо групай, самастойна альбо з дапамогай куратара.

Да працы абавязкова павінна быць далучана анкета ўдзельніка з прозвішчам, імем удзельніка, яго каардынатамі і назвай працы, а таксама з прозвішчам, імем і каардынатамі кіраўніка (пры яго наяўнасці).

Працу трэба дасылаць у адным асобніку да 1 мая 2001 г. (дата вызначаецца па паштовым штэмпелі) на адрас: «Блізкая гісторыя», а/с 128, 220064, Мінск.

Вынікі конкурсу будуць абвешчаныя 8 ліпеня 2001 г.

***Усю патрэбную інфармацыю, парады і брашуру, у якой падрабязна выкладзены ўмовы конкурсу, можна атрымаць ад сакратара конкурсу Ірыны Коваль (па тэлефоне (8-017) 227-51-09, па пошце: «Блізкая гісторыя», а/с128, 220064, г.Мінск), або у г.Пружаны (ПГІРА "Яравіт" тэл.2-00-40.) Жадаем поспеху!***

# ВІНШАВАННІ

***Вахнович Елену поздравляют с Днём Рождения подруги Елена и Ирина!***

*Желаем счастья, светлых дней, здоровья, что всего ценней, дороги жизни подлинней и больше радости на ней!*

***Поздравляем с Днём Рождения Криштафович Ольгу!***

*Долгих лет и крепкого здоровья, молодости, силы, красоты. Пусть всегда - не только в день рожденья, исполняются заветные мечты!*

***Подруги Иры, Лена, Катя, Света, Наташа.***





# КРЫША ПОЕХАЛА!

Мимо кладбища идет ночью девушка. Страшно трусит.

Вдруг её нагоняет какая-то фигура:

- Боитесь? - спрашивает фигура.

- Боюсь.

- Я, когда живой был, тоже боялся.

Незадолго до Нового года к бабушке привезли внука. Малыш с дороги устал, и его положили спать. Когда он проснулся в плохом настроении и захныкал, бабушка сказала:

- Если не будешь капризничать, Дед Мороз подарит тебе башенный кран.

- Здорово! - обрадовался он. - Теперь у меня их будет два.

- Почему два? - удивилась бабушка.

- А второй я нашел у тебя под кроватью

- Нет никаких сомнений! Вас отравили!

- Господи! Доктор! Как? Чем?

- О, пожалуйста, не волнуйтесь! Мы все выясним на вскрытии!

Встреча новых русских.

Каждый привел с собой громадину-охранника. И только у одного - щуплый, низкорослый, болезненного вида.

- Он у тебя крутой боец?

- Да нет, совсем никакой.

- Снайпер

- Никогда оружия в руках не держал

- Так зачем ты его за собой таскаешь?

- (Поглаживая охранника по голове) - А он у меня уже четвертый, все его за меня принимают.

Стоит бомж около фонаря в одном ботинке. К нему подходит бабка и говорит:

- Ты что милок ботинок потерял?

А он ей говорит:

- Нет старая - нашел

- Почему головы орла на Российском гербе смотрят в разные стороны?

- Третьего ищут

Друг - это тот человек, кто приходит к тебе в гости не для того чтобы поесть; лучший друг - это тот человек, у которого можешь поесть ты.

Медведь поймал двух охотников и говорит:

- На первое-второе рассчитайся!

В парфюмерном магазине молодой человек выбирает духи для своей девушки.

Продавец предлагает ему разные духи, и наконец достает самые последние.

- Это великолепные духи, я уверен, что они понравятся вашей избраннице.

Называются "Быть может..." Цена - тысяча рублей.

- Тыща рублей! Да за тыщу я предпочел бы "Наверняка"

- Когда за Буратино закрылась тюремная дверь, прокурор снял шапку и сказал:

- Наконец то я посадил дерево!

# АБ'ЯВЫ

## ПРОДАМ

Фольксваген-пассат, 91 г/в, 1,8 бензин, дуги, гидроусилитель, 1 месяц в РБ, цена - 2 650 у.е. **Тел.: 2-44-54.**

***

Фольксваген-пассат, 90 г/в, 1,6 турбо/диз., дуги, гидроусилитель, 2 месяца в РБ, цена - 2100 у.е. **Тел.: 2-44-54.**

***

Бруски на окна, кафель (цена договорная). Звонить после 18 часов. **Тел.: 2-46-56.**

***

Авто АУДИ-100 (80 г. в.), можно на запчасти, на ходу - 500 у.е.

Пианино (25 лет) - 90 у.е. Звонить с 18 ч. до 20 ч. **Тел.: 63-6-79 (Спросить Петю)**

***

ВАЗ-2105, 1990 г., 850 у.е. **Тел.: 2-15-56.**

***

Запчасти к Форду «Эскорт», 89 г.в. **Тел.: 63-2-93, после 18 часов.**

***

Недостроенный гараж по ул. Макаренко, недорого. **Тел.: 2-45-35.**

## СНИМУ

Гараж в районе ул. Заводской, Октябрьской, Строительной. **Тел.: 7-19-30.**

## КУПЛЮ

2-х комнатную квартиру, до 4500 у.е. **Тел.: 7-16-40.**

## КУПОН ДЛЯ БЯСПЛАТНЫХ ПРЫВАТНЫХ АБ'ЯВАЎ

(сапраўдны на працягу двух тыдняў пасля выхаду газеты)

*прадам
*куплю
*мяняю
*паслугі
*рознае
(патрэбнае абвесці)

Запоўніце купон разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі: 225140, г.Пружаны, Завадская,16, або перадайце у кіёскі "Саюздруку"

Звесткі не для друку

Прозвішча імя і імя па бацьку

Хатні адрас і тэлефон

Голас Пружаны

Рэг. № 1323 ад 16.07.1999 г.

Заснавальнік і рэдактар Язэп Машкала

Адрас рэдакцыі: 225140, г. Пружаны, вул.Завадская, 16

Тэлефон: (01632) 2-00-40

E-mail: golasp@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 21 снежня 2000 года.

Час падпісання 18:00

Надрукавана ў ГАУПП "Слонімская друкарня", г.Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Наклад 1000 экз. Заказ № 3904